Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 2 верасьня 1933.

№ 18.

# РОДНЫ КРАЙ

Год 1-шы

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Папраўма абмылку!

У Варшаве толькі-што адбыўся VII Міжнародавы Кангрэс Гісторыкаў. На Кангрэс прыехала больш за тысячу прадстаўнікоў гістарычнае навукі з усяго сьвету. У працягу тыдня ўчасьнікі Кангрэсу ў сваіх дакладах дзяліліся між сабой вынікамі сваіх досьледаў і прац над рознымі галінамі веды аб мінуўшчыне.

Гэткія кангрэсы адбываюцца нармальна што пяць гадоў—у сталіцах розных дзяржаў пачарзе, і беларусы павінны аднесьціся да іх на будучыню з вялікшай уважлівасьцяй і сказаць перад гэткай паважнай аўдыторыяй і сваё слова—слова праўды аб мінулым нашага народу, аб якім сьвет яшчэ так мала ведае... Гэтак і на сёлетнім Кангрэсе ў працах паасобных дасьледчыкаў часта ўспаміналася імя Літвы, але-ж мала хто здаваў сабе справу з таго, што гэта-ж была па свайму нацыянальнаму складу дзяржава пераважна беларуская, а па культуры ды мове — чыста беларуская. Дый самае імя нашага народу ў мінуўшыне было зацемнена назовам „Русь", „русіны", „мова руская", што абыймала не адных беларусаў, але і ўкраінцаў. І з гэтага скарыстаў „варшаўскі украінец" праф. Кордуба, каб заявіць публічна, што нібы то беларусы, як асобная нацыя, „выдзяліліся з украінскае нацыі" толькі ў XVII—XVIII стагодзьдзі, а значыць—і ўся нашая слаўная старая літаратура, гэтак багата расьцьвіўшая ўжо ў XV-XVI стагодзьдзях, была зусім не беларуская, а—украінская!

З прычыны позна пары дыскусія пасьля дакладу праф. Кордубы не адбылася, і беларусы не маглі даць належнага адказу на зусім неабаснаванае і нязгоднае з гістарычнай праўдай цьверджаньне гэнага дакладчыка. Зразумела, іншыя ўкраінцы пасьля выступленьня праф. Кордубы падыходзілі да беларусаў і заяўлялі, што зусім не салідарызуюцца з асабістымі паглядамі дакладчыка, паводле якога і ўкраінская нацыя паўстала толькі ў XV стагодзьдзі! Але—слова, як птушка: паляцела, і назад яго ня вернеш...

Прыймаўшыя ўчасьце ў Кангрэсе беларусы, ведама, стараліся ў гутарках з чужаземнымі гісторыкамі даць правільнае асьвятленьне беларускага пытаньня. Але беларусаў на Кангрэсе было вельмі мала: з Заходняе Беларусі два дэлегаты Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, гр. гр. Луцкевіч і Самойла, а з Савецкае Беларусі — толькі адзін, прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук у Менску, гр. Горын. Дый апошні для свайго дакладу, прачытанага папольску (—усе іншыя даклады чыталіся ў заходняэўрапэйскіх мовах: францускай, нямецкай, ангельскай, італьянскай), выбраў тэму, далёкую ад беларускага пытаньня: ён чытаў аб гвалтах царскіх урадаў над культурна-нацыянальным жыцьцём палякоў пад уладай Расеі.

Дзеля лепшага выясьненьня варункаў працы нашых дэлегатаў на Кангрэсе дадамо, што сябры Кангрэсу падзяліліся на пятнаццаць сэкцыяў, якія працавалі асобна і самастойна—у тым самым часе. Дык ясна, што ў інтарэсах беларускае справы лічба кангрэсістаў-беларусаў мусіла быць значна большая...

Чаму-ж беларускае грамадзянства гэтак мала зацікавілася Кангрэсам, на які паехаць у Варшаву было ня так ужо і цяжка, дзякуючы 50% зьніжцы за праезд чыгункай і таннаму жыцьцю ў Акадэміцкім Доме? Чаму на пяцьсот з гакам учасьнікаў з Польшчы прыехалі толькі два прадстаўнікі Заходняе Беларусі? Адказ на гэтае балючае для кожнага беларуса пытаньне — вельмі просты: бо нашае грамадзянства, расьцярушанае і пазбаўленае нейкага аднаго супольнага кіраунічага цэнтру, папросту ня здолела зрабіць супольнага высілку, каб грамадой паехаць туды, дзе можна і трэба было сказаць сваё слова аб беларусах для ведама ўсяго навуковага сьвету.

Сталася блага, і на наступны Кангрэс, які ўжо адбудзецца заграніцай, трэба беларусам выступіць больш паважна. Трэба загадзя (—часу-ж ёсьць!) падгатаваць хоць пару салідных навуковых дакладаў, каб вучоны сьвет пазнаў праўду аб беларусім народзе, пазнаў нашу колішнюю культурную велічі, пазнаўшы, зразумеў, што беларусы маюць права на жыцьцё, на самастойнае нацыянальнае існаваньне і ўсебаковае разьвіцьцё.

# Вялікі „Паўночны Кірмаш“ у Вільні.

26 жніўня адкрыўся ў Вільні вялікі „Паўночны Кірмаш“, ці выстаўка. Першы такі агульна-краёвы кірмаш адбыўся, як ведама, ў 1928 г. Мяркавалі такія кірмашы ладзіць што-два гады. Але ад таго часу за 5 гадоў наладзілі толькі два. Такім чынам сучасны кірмаш—трэці па ліку.

Па думцы пачынальнікаў-арганізатараў, паўночныя кірмашы маюць бліжэйшым чынам адлюстроўваць гаспадарчую вытворчасьць так-званых на афіцыяльнай мове „паўночна-ўсходніх ваяводзтваў“, а па нашаму, шмат прасьцей і бліжэй да адвечнай народнай праўды, — *беларускага краю.* Дзеля таго беларускай думцы трэба з асаблівай увагай аднесьціся да гэтае прапагандова-гаспадарчае чыннасьці ўладаў і грамадзкіх арганізацыяў. Праўда, нажаль, шырокія колы нашага народу не стаяць яшчэ на адпаведным роўні грамадзкага і гаспадарчага разьвіцьця, каб маглі зьявіцца актыўным чыньнікам і супрацоўнікам у арганізацыі кірмашу ў сваім Краі. Пэўне-ж гэты нізкі агульны ровень грамадзка-гаспадарчае культуры нашага сялянскага масыву ў Краі, а ўдадатак яшчэ і шалеючы крызіс—не дадуць магчымасьці навет больш-менш заможнаму селяніну-гаспадару хаця-б навет скарыстаць з выстаўкі-кіршашу ў тэй меры, як гэта было-б пажадана. Але ўсё гэта з часам прыдзе няўхільна. Дый пэўне-ж і цяпер ня толькі буйнейшы, але навет і сярэдні прадуцэнт галоўных вырабаў краю маюць магчымасьць прыняць учасьце ў выстаўцы, як сябры таго ці іншага вытворча-гандлёвага аб'яднаньня, арганізуючага тую ці іншую галіну гаспадарчага творства Краю.

Запраўды-ж, па думцы арганізатараў выстаўкі-кірмашу, яна мае першым чынам паказаць сучаснае палажэньне і ровень тэхнічных дасяжэньняў якраз галоўных галінаў гаспадарчае вытворчасьці краю. Таму галоўнымі аддзеламі выстаўкі-кірмашу зьяўляюцца аддзелы ільнярства, рыбаводзтва, пчалярства, лесаводзтва і розныя галіны кустарнага промыслу.

Блізу ў-ва ўсіх гэтых галінах гаспадарчага творства нашага Краю шырока працуе буйнейшы і сярэдні гаспадар-селянін, а з часам—з пашырэньнем у нас культуры, дабрабыту і грамадзкае лучнасьці сярод распыленых цяпер адзінак—усе пералічаныя галіны творства і абслужываючыя іх сяброўскія аб'яднаньні сілай рэчаў апынуцца на адказнасьці гаспадара-прадуцэнта — беларускага селяніна Але да гэтага часу—яшчэ далёка. Трэба доўгіх гадоў цяжкое працы над уздымам культуры, грамадзкае сьведамасьці, эканамічнае самадзейнасьці, каб здабыць нашаму сялянству гэтае „належнае яму месца пад сонцам“ — на зямлі нашых бацькоў і дзядоў.

Трэба гэтага ўсяго вучыцца ад нашых бліжэйшых братоў украінцаў, якія ўжо дайшлі ў значнай меры да такога роўня культурна-гаспадарчага разьвіцьця, што здолелі ўжо прыцягнуць шырокія колы сялянства да крэпкіх ня толькі спажывецкіх, але, што штат важней, і вытворчых аб'яднаньняў (кооперацываў). На ўкраінскіх землях дзеля таго такія кірмашы-выстаўкі маюць іншы характар, чым у нас — на беларускіх. Нашым „паўночным кірмашам“ можна зрабіць той важны закід, што ўся іх арганізацыя мае пераважнае „настаўленьне“ на буйнейшую гаспадарку ў-ва ўсіх тых галінах вытворчасьці, якія прадстаўлены на выстаўцы. Такім чынам кірмаш-выстаўка мае агульны характар *буйна-прамысловы, буйна-ўласьніцкі,* а дзеля таго—няўхільна—*польскі.* У значнай меры якраз дзеля таго, як адзначана напачатку, кірмаш-выстаўка, маючая адбіць гаспадарчы стан беларускага краю, *у вельмі слабой меры прыцягівае* да гэтага абраза і да гэтае працы найшырэйшыя слаі насяленьня краю—*беларускае сялянства.*

Гэтая *аднабокасьць* — галоўная загана ўсяго гэтага наагул важнага і бясспрэчна карыснага прадпрыемства. Праўда, заўсёды і хочацца, і трэба, як прыклад для іншых, паказаць тое, што ёсьць ужо найлепшага ў краі, хаця і ў нялічных адзінак. Але гэтага мала. Трэба яшчэ *ўздымаць агульны ровень гаспадарчага дабрабыту і творства краю, — стан культуры яго шырокага спажыўца і вытворцы.* А на гэтым шляху ніяк ужо не абмінеш галоўнае і першараднае задачы культурна-гаспадарчага ўздыму краю: разьвіцьця ў першую чаргу *нацыянальнае асьветы і культуры масавага жыхара краю—беларуса.* Бо-ж — па-за межамі нацыянальнага жыцьця і разьвіцьця—ніякага творства, ніякае культуры дый ніякага жыцьця, дастойнага гэтага імя, няма.

# Неспадзяваны вынік разбраенчае канфэрэнцыі.

**Як ведама, узнаўленьне перарванае канфэрэнцыі ў справе разбраеньня „адкладзена на кароткі час“. Але якраз у гэтым „перарыве“, ці „перадышцы“ пачалі дзеяцца рэчы „неспадзяваныя“. Не дайшоўшы да паразуменьня і да падпісаньня агульнае міжнародавае ўмовы, абмежываючае збраеньні на сушы і паветры, вялікія марскія дзяржавы пачалі... сумленна выконываць умову аб абмежачьні збраеньняў на моры, падпісаную пару гадоў назад у Вашынгтоне.**

**Прыклад дала якраз Амэрыка Рузвэльта, якая асабліва дамагалася на канфэрэнцыі сухапутнага разбраеньня Эўропы. Амэрыка распачала т. зв. „модэрнізацыю“ свайго флёту—„у точных лічбовых рамках Вашынгтонскае ўмовы“. Гэта значыць, што маюць быць толькі заменены новымі ўсе ўстарэўшыя адзінкі амэрыканскага флёту. Але „новымі“— гэта-ж зусім ня значыць, што такімі-ж са-**

мымі, як старыя. Будуючы новыя ваенныя караблі, адначасна апрацоўваецца зусім новы іх тып, павялічываючы хуткасьць іх ходу і баявую іх сілу настолькі, што адзін новы заступае аж 2 старыя.

Ясна, на колькі гэткая „мадэрнізацыя“ павялічывае агульную сілу флёту Амэрыкі. Ня кажам ужо аб тым, што да таго-ж амэрыканскі ўрад апрацаваў яшчэ „невялічкую дадатковую“ праграму будаваньня новых баявых адзінак, усё — у рамках Вашынгтонскае ўмовы... У выніку—аж 30 новых ваенных караблёў вялікшага разьмеру закладзены ў варштатах Амэрыкі.

Ясна, што на гэтую чыннасьць Амэрыкі зараз-жа зарэагавала Японія. Японія—ня толькі адразу ня менш сумленна выкарыстала ўсе магчымасьці павялічэньня флёту, якія дае ёй Вашынгтонская ўмова, але ўжо згары заявіла ў Жэнэве, што ня зьбіраецца ўзнавіць гэтую ўмову, якая канчаецца ў 1935 г., калі ёй ня будзе прызнана роўнае з Амэрыкай і Англіяй права на флёт. Гэта значыць, што Японія трэбуе ўжо згары ўсіленьня свайго флёту на дзьве пятыя, ці—блізу ўдвая!! Бо-ж Вашынгтонская ўмова прызнае Японіі права мець флёт у трох пятых англійскага і амэрыканскага. Ясна, што ў выніку апошніх вялізарных японскіх захватаў у Кітаі — вяліка-дзяржаўнае самапачуцьцё ўзрасло ў яе непамерна. Калі-ж да гэтага дадаць, што Японія танікой і якасьцю сваіх вырабаў падбівае ня толькі Англію і Амэрыку, але нават і Нямеччыну на сусьветным рынку, забіўшы, прыкладам, блізу цалком англійскі гандаль у Індыі і інш. калёніях Англіі, дык ясна, якія мэты ставіць сабе „новая“ амбіцыя Японіі, каторая дабіваецца „роўнага панаваньня на акеанах“ з Англіяй і Амэрыкай.

Ці-ж можа ў такіх варунках „выкананьня Вашынгтонскае ўмовы“ адставаць ад сваіх вялікадзяржаўных марскіх калегаў Англія, у якой адзінства яе раскіненых па ўсім сьвеце дзяржаўных земляў можа ўтрымацца толькі дзякуючы бяспрэчнай перавазе яе флёту на акеанах? Як ведама, на Вашынгтонскай канфэрэнцыі Англія ўжо адмовілася ад гэтае „бяспрэчнае перавагі“, прызнаўшы роўнасьць сілы флёту Амэрыкі. А цяпер таго-ж трэбуе і Японія! І вось — англійскае марское міністэрства выступіла з дамаганьнем будовы новых 25 крэйсэроў найнавейшага тыпу, а апроч таго — будаваньня яшчэ па 15—20 мінаносцаў і падводных лодак штогодна.

Калі дадаць яшчэ, што Італія ставіць сабе „пунктам гонару“ дабіцца роўнага флёту з Францыяй, дык што паміж абедзьвюма канкурэнткамі ўжо разгарэлася разбудова флётаў навыперадкі, дык абраз „агульнага разбраеньня“ на морах — у выніку „перадышкі“ разбраенчае канфэрэнцыі — будзем мець блізу дакладны.

Чым пагражае ўсё гэта ў блізкай будучыні, ясна кожнаму, асабліва-ж з увагі на нячувана шырокія пляны Японіі на панаваньне ў Азіі. Японія, як адкрыта піша яе прэса дый заяўляюць голасна правадыры яе ваеннае палітыкі, маніцца выцісnуць з Азіі ўсе неазіяцкія дзяржавы — паводле лёзунгу: „Азія для азіятаў“, — падобна да лёзунгу „Амэрыка для амэрыканцаў“, які кладзе, як ведама, у аснову сваей палітыкі Паўночна-Амэрыканская Рэспубліка.

Характэрна, што ў апошнім часе япон-

---

**М. Машарэ.**

# Вось тут і зразумей...

**Драматычны абразок у 2-х адслонах**

(**Тэма запазычана з гутаркі з каморнікам** *Ю.С.*)

(Даканчэньне).

ЗЬЯВА 7-я.

**Тыя-ж, Дудар і Антось.**

(Антось з заспанымі вачыма, за нагой цягнецца кусок вяроўкі. Да вопраткі папрыстаўшы салома. Відочна блага сабе ўяўляе, што дзеецца).

**Дудар** — Заледзь расчухаў... Ня хоча ўставаць, ды і толькі, надта салодка спаў... аж будзіць шкода было!

**Ганулі**—(кідаецца да Антося і плачучы абыймае яго:) А мой жа ты Антоська!... а мой жа ты даражэнькі...

**Антось**—(да Ганулі расчулены, але не ўяўляючы сутнасьці:) Ганулька, выбач! далібог піць больш ня буду. Нават і на кімарш не пайду. І ў той бок ня гляну! (адходзіць ад Ганулі, бярэ з-пад сьцяны мярнічы флаг). Ну, а цяпер трэ да працы! (да Дудара, паказываючы на прылады:) Бяры, Янка, пайдзём (Ганулі плача).

**Дудар**—(вясёла:) Адзін у плот—другі ў гарод. Цяпер, брат, заракацца і каяцца позна! Не да працы і кірмашу табе будзе, як немец задасьць жару! (да каморніка:) Ніяк не магу ўбіць чалавеку, што вайна! Ня верыць ды і толькі. (Ганулі плача. Дудар вырывае з рук Антося флаг). Кідай, брат; ня трэба. Ужо адмерылі.

**Антось** — Што ты пляцеш, Янка? кінь свае дурныя жарты!

**Дудар**—Жарты?... Пажартуеш, брат!...

**Каморнік**—Так, так, Антось! Гэта ня жарты. Запраўды вайна.

**Антось**—(з трывогай, відочна ўяўляючы сутнасьць). Што вы кажаце? Дык значыць праўда?

**Ганулі**—(раптам адрываючыся ад сьцяны, чапляючыся за Антося, з плачам:) Праўда, праўда, Антоська, і табе трэба ісьці! Ох, наша бяздолячка!... Ох, наша горачка горкае!... Як жа я застануся адна ды з малымі дзетачкамі? Чула маё сэрца бяду, чула! (абыймаючы Антося:) цябе-ж там могуць за-

окая прэса, тлумачучы гэты лёзунг, залічае да Азіі ня толькі архіпэлягі Вялікага акеану, але і — Аўстралію.

Дзіва, што сусьветная прэса ў адзін голас крычыць аб хуткім набліжэньні чарговае сусьветнае вайны на Вялікім акеане!..

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Беларусы на VII Міжнародавым Кангрэсе Гісторыкаў.** Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні выдэлегавала на адбыты ў Варшаве Кангрэс двух сваіх сяброў: гр. гр. А. Луцкевіча і Ул. Самойлу, якія выкарысталі сваю падарожу дзеля завязаньня сувязі з замежнымі вучонымі і навуковымі ўстановамі. Беларускія дэлегаты сустрэкалі ў усіх шчырае зацікаўленьне беларускім пытаньнем, аб якім заграніцай мала ведаюць. Выявілася вялікая патрэба друкаваных прац аб беларусах у чужых мовах.

## На правінцыі.

**Публічная лекцыя.** (В. Гарэлікі, Вайстомскае гм., Вялейск. пав.). 20 жніўня ў вёсцы Гарэлікі была прачытана дэлегаваным ад ураду Т. Б. А. студэнтам віленскага унівэрсытэту Валентынам Смаленскім публічная лекцыя—на тэму „Правы і абавязкі грамадзяніна Польскае Рэспублікі". Лекцыя прачытана была ўзачыненым памешканьні, зразумела ж, пасьля выкананьня ўсіх неабходных фармальнасьцяў. Ніякіх перашкодаў павятовыя ані мяйсцовыя ўлады не рабілі. Вялікая хата была перапоўнена „да краёў": набілася звыш 100 асоб. Усе імкнуліся паслухаць жывое, разумнае прамовы ў родным слове. Пасьля лекцыі адбыўся кароткі абмен думкамі. Лектару задавалі шмат пытаньняў, чаму гэта так, што, маючы столькі пісаных правоў, селянін—грамадзянін Польскае Рэспублікі—неяк ня мае толькі аднаго права: карыстацца э гэтых усіх правоў... Выказывалася пры гэтым шмат розных пажаданьняў. У першую чаргу прасілі кніжкі ў роднай мове, бібліатэкі. Далей прасілі, каб лектары Т.Б.А. прыяжджалі чым часьцей дый чыталі лекцыі на розныя карысныя тэмы, абы толькі на блізкім сэрцу і розуму языку беларускім.

На лекцыі паліцыянта, прынамся ў мундзіры, ня было.

**Слова Божае—у роднай мове.** (М. Кураней, Вялейскага пав.). На ўрачыстую службу ў часе нашага царкоўнага сьвята ў дзень Ільлі-Прарока прыехала некалькі сьвяшчэньнікаў, паміж імі—місіянер. Народу зьехалася вялізарная маса. Сярод сьвяшчэньнікаў быў спэцыяльна запрошаны на сьвята а. Усевалад Яськоў з суседняга прыходу. І вось першы раз беларускае праваслаўнае сялянства пачула з царкоўнага амбону казаньне ў роднай мове.

Уражаньне ад гэтага запраўды гістарычнае вагі здарэньня ў нашым жыцьці бы-

---

біці, ты-ж ужо ня вернешся... А мой жа ты саколік!...

**Каморнік**—(да Ганулі:) Суседка, сьлёзамі гору не паможаш... Вы лепш ідзеце і прыгатуйце Антосю клумак на дарогу, бо ім хутка трэба будзе рухаць.

**Ганулия**—(галосячы, ідзе ў хату:) А мой ты галубочак!... а мой жа ты Антоська! (хаваецца ў хаце. Антось, візка апусьціўшы галаву, памаленьку ідзе за ёй да хаты. Дайшоўшы, садзіцца на лаўцы пад хатай. Нярухома і моўчкі сядзіць, спусьціўшы ўніз галаву і падпёршы яе рукамі).

ЗЬЯВА 8-я.

**Тыя-ж без Ганулі.**

**Дудар**—Добра, што я не жанаты — спакайней галава. Ды затое і клумак мне ніхто ня зьберыць. Трэба рухаць і мне складаць манаткі...

ЗЬЯВА 9-я.

**Тыя-ж без Дудара.**

**Каморнік**—(да Тумаша, які штось гутарыць на вулцы з нейкай кабетай:) Тумаш, ты братка пазьбірай прылады і аднясі назад. (Сам садзіцца на сходку ганку і закурывае папяросу. Тумаш зьбірае прылады і выходзіць. Па вулцы то туды, то сюды праходзяць кабеты і мужчыны. Зьяўляецца солтыс).

ЗЬЯВА 10-я.

**Тыя-ж і солтыс.**

**Солтыс**—(да каморніка:) Скажэце, калі ласка, каторая гадзіна?... Ці мы пасьпеем, як сказана ў абвестцы? Ох, зьнямогся зусім,— як на пажары хапаюся.

**Каморнік**—(гледзячы на гадзіньнік:) Яшчэ пасьпееце да гміны. Толькі трэба варушыцца.

**Солтыс** — (убачыўшы Антося:) Што-ж ты, Антось, зьвесіў галаву?... Нічога не парадзіш... Трэ, братка, зьбірацца; хутка рушым (Антось маўчыць).

**Каморнік**—(да солтыса:) Там Гануля рыхтуе яму клумак.

**Солтыс**—(зьвяртаючыся да хаты Антося:) Гануля!... Ганулька! Ты там хутчэй зьбірай дзеду клумак, бо хутка вырушым (да каморніка:) Вось служба, каб яна правалілася! Усюды трэба дагледзіць, усіх падагнаць, а ў самога, далібог, панок, сэрца разрываецца!.. Трэба-ж бегчы далей (выходзіць).

ло вялізарнае. Слова навукі Божае слухалі, як ніколі раней: слова йшло проста й глыбака ў сэрца.

Ніжэйпадпісаныя — ад імя ўсяго зьехаўшагася царкоўнага народу — выражаюць гэтым глыбокую падзяку айцу Ус. Яськову за ягоны пачын.

Прыхаджане: *(ідзе рад подпісаў.)*

**Памажэце нам!** (в. Нелюбы, Ціяршайскае гм.). Мусіць і ўсюды так, як у нашай мяйсцовасьці: людзей шмат, гаспадаркі малыя, усю работу хутка зробім, маем шмат вольнага часу, але ня ведаем, як яго карысна правясьці. Здаецца, чыталі-б людзі ў вольны час газэту, або кніжку, але ні тых, ні другіх на-жаль ня маем. Чулі мы, што ў іншых гмінах адчыняюць бібліатэкі, але каля нас блізка дык нешта ня чуваць. А можа-б хто ў нас аб гэтым падумаў, бо ня ведаем, як гэта зрабіць, каб адчынілі ў нас бібліатэку-чытальню. С.

**І мы просім кніжак!** (в. Рэчкі, Даўгінаўскае гм.). Неяк дачуліся людзі, што можна іадчыніць бібліатэку-чытальню. Не чакаючы доўга і ў нас сталі рабіць захады, каб адчыніць бібліатэку. Але чамусьці да гэтага часу бібліатэкі як няма, дык няма. Што ці хто стаіць гэтаму на перашкодзе, так і ня ведаем. Але-ж нарэшце мусіць дачакаемся, бо вельмі ахвотна грэматныя ў вольны час, а такога маем многа, прачыталі-б кніжку і таго-сяго навучыліся-б. Грамадзяне з Вільні— памажэце нам у гэтай справе! М.

**Мэліорацыйныя работы ўздоўж савецкае граніцы.** Уздоўж польска-савецкае граніцы ў Маладзечанскім, Валожынскім і Нясьвіжскім паветах закончаны вялікія рэгуляцыйныя работы—у мэтах паляпшэньня грунтаў, асушкі балотаў і г. д. Усяго асушана 750 гектараў. Усе работы зроблены ў паразуменьні з савецкай пагранічнай вартай.

## У Латвіі.

**Пяцілецьце працы Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі.** Сёлета мінула 5 гадоў ад закладзінаў гэтае важнае для беларускага руху ў Латвіі арганізацыі. Статут Т-ва, які быў зацьверджаны 25 красавіка 1928 г., падпісалі, як закладчыкі: гр. гр. П. Журкоўскі, К. Мяжэцкі, Н. Пінская, П. Мірановіч і М. Калінін, якія і склалі першы часовы ўрад. У Дзьвінскім, Рэжыцкім і Люцынскім паветах Т-ва мае 14 аддзелаў з 760 сябрамі, а 15-ты аддзел — у Рызе. За 5 гадоў Т-ва з'арганізавала каля 100 спэктакляў і канцэртаў ды больш за 30 лекцыяў і рэфэратаў на навуковыя і грамадзкія тэмы. Пры кожным аддзеле закладзена бібліатэчка; пры аддзелах ёсьць 3 струнныя аркестры і 5 радыё-апаратаў.

Сучасны склад Ураду Т-ва: К. Мяжэцкі (старшыня), П. Мірановіч, Ф. Клагіш. М. Зуеўскі і Яз. Клагіш.

**Запісываньне беларускіх песьняў.** Створанае ня так даўно ў Латвіі Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва вядзе вельмі карысную працу запісываньня народных песьняў, казак і г. п. За мінулае лета—паводле атрыманых дагэтуль інфармацыяў—зроблены гэткія запісы народнае творчасьці: у Істраўшчыне гр. К. Езавітаў запісаў 14 песьняў (купальскіх) і 2 казкі, у Старай Слабадзе гр. Н. Нікіфароўская і вучыцелька Г. Нікіфа.

---

ЗЬЯВА 11-я.

**Тыя-ж бяз солтыса. Вых. Ганулл.**

(Нямая сцэна).

**Ганулл**—(выходзіць з хаты і нясе зьвязаны клумак. За ёй Галінка ў новых чаравіках нясе ў руках бацькаву шапку. Абедзьве плачуць. Антось усьцяж сядзіць нярухома. Ганулл, плачучы, прымацовывае Антосю клумак да плеч. Галінка туліцца да бацькі, плачучы надзяе яму шапку. Прымацаваўшы хатуль, Ганулл штось кладзе Антосю ў кішэнь, ачышчае прыстаўшую да вопраткі салому, станавіцца каля Антося на калені і адвязывае ад нагі кусок застаўшаеся вяроўкі; адвязаўшы вяроўку і не ўстаючы з кален, Ганулл туліцца, плачучы, разам з Галінкай да Антося. Антось моўчкі моцна абедзьвюх прыціскае да грудзей і плача. На вуліцы затрымліваюцца праходзячыя кабеты, зьбіваюцца ў кучу і, гледзячы, так сама плачуць. Каморнік сядзіць на сходах ганку і нэрвова паліць папяросу за папяросай).

ЗЬЯВА 12-я.

**Тыя-ж і Дудар** (з клумкам за плячыма).

**Дудар**—(падыходзячы да Антося:) Ну, Антось, годзе плакаць! Будзь мужчынам. (Бярэ Ганулю за плячо і падымае). Суседка, кіньце сьлёзы; што-ж рабіць? такі лёс!... Антось зрэшта не адзін, — бачце, поўсяла выбіраецца. (Ганулл падымаецца і плача, абапершыся на Дудара. Дудар супакойвае:) Дасьць Бог, усё будзе добра!... і хутка зноў вернемся да хаты... (да Антося:) Ну, Антось, кратайся! (бярэ за плячо і падымае. Антось нейкі час стаіць, як скамянеўшы, потым схіляецца і бярэ на рукі Галінку).

**Антось**—(цалуючы Галінку:) Ну, бывай, дачушка!... Бывай, мая даражэнькая! Ня думаў я ўчора, купляючы табе чаравікі, што табе прыдзецца насіць іх без мяне. Заставайся з Богам, слухайся маткі! (апускае Галінку на зямлю, яна плача і чапляецца за бацьку).

**Ганулл**—(Адрываючыся ад Дудара і кідаючыся на шыю Антосю, галосіць:) А мой ты Антосічка!... а мой ты даражэнькі... а куды-ж ты пойдзеш?... а на каго-ж ты нас пакінеш? (яна ад жалю ня можа плакаць, дык крычыць.)

**Антось**—(Цалуючы і супакойваючы Ганулю:) Бывай-жа!... Бывай-жа Ганулька!...

роўская запісалі 44 песьні, у Зьвірдзенішчыне гр. С. Казека запісаў 10 вясельных песьняў, у Канецполю гр. М. Шчавінскім сабраны былі 8 бытавых песьняў і цяпер адданы Т-ву, у Пустыншчыне грам. Ігнат Ігнатовіч запісаў жартаўлівыя казачкі. Апрача таго спэцыяльны аб'езд Пустыншчыны зроблены гр. Ф. Клагішам, які атрымаў ад Т-ва на запісываньне песьняў фонограф.

**Бюджэт Беларускага Аддзелу.** Бюджэт Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы на 1933-34 школьны год складзены ў суме 62,181 латаў (каля 100,000 злот.), з якіх на ўтрыманьне Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі ў Дзьвінску ідзе 45,351 лат, на Беларускія Дзяржаўныя Вучыцельскія Курсы ў Рызе—6,500 лат., на ўтрыманьне Аддзелу — 8,038 лат., а рэшта 2284 л. — на дапамогу асноўным беларускім прыватным школам (гэта не датычыць самаўрадавых беларускіх школ, якія ўтрымліваюцца на кошт мест і павятовых самаўрадаў).

## У Літве.

**„Братскія адносіны" на дзеле.** „Бел. Шк. у Латвіі" друкуе карэспандэнцыю з Коўны аб тым, што літоўскі ўрад, вызначаючы даволі значную дапамогу для культурна-асьветных арганізацыяў і устаноў усіх меншасьцяў Літвы, адмаўляецца дапамагаць адным толькі беларусам, хаця так многа гаворыць аб сваей „прыхільнасьці" да „братоў-беларусаў". Беларуская часопісь, інформуючы аб гэтым грамадзянства, дадае, што падяны факт найлепш паказывае, якія былі-б адносіны літоўскіх уладаў да беларусаў, калі-б Вільня некалі папала пад панаваньне Літвы.

## Б. С. С. Р.

**Новыя арышты.** З Менску атрымана вестка, быццам там адбыліся новыя арышты сярод беларускіх культурнікаў. Быццам заарыштаваны М. Кахановіч, Ігнат Дварчанін і Пабедзінскі. У прыпісцы да пісьма гаворыцца: „Кажуць такжа аб арыштах Барана, Валошына і інш."

Калі вестка гэтая праўдзівая (— а пісьмо мы самі бачылі), дык кідаецца ў вочы факт арыштаваньня блізу ўсіх былых паслоў польскага Сойму —беларусаў, ведамых сваей варажасьцяй да Польшчы...

**Замест беларускае мовы — польская.** Да апошніх часоў на паштовым штэмпэлі ў сталіцы Савецкае Беларусі, Менску, быў падвойны надпіс — у беларускай і расейскай мове: „Менск—Минск". Цяпер мы бачым характэрную зьмену: беларуская мова выкінена і замест беларускага назову „Менск" устаўлены польскі „Mińsk". Адкрытка з гэткім штэмпэлем ёсьць у нашай Рэдакцыі.

Як відаць, сьледам за абвяшчэньнем „польскім" Койданаўскага вокругу з чыста беларускім насяленьнем ідзе польшчаньне і ўсяе Савецкае Беларусі з яе сталіцай. Ці ня ёсьць гэта вынік апошняга „новага курсу" савецкае палітыкі і збліжэньня Саветаў з Польшчай?

## Палітычная хроніка.

**Арышты сярод украінцаў.** У Львове 28 жніўня паліцэйскія ўлады раскрылі і арыштавалі тэхнічную арганізацыю цэнтр. камі-

---

бачыш, трэба ісьці... Нічога не парадзіш... Выбачай мне, даражэнькая. Зарабіў я за цябе шмат грэху, ды цяпер позна каяцца... не памінай ліхам!

**Дудар**—Годзе вам, годзе!... Гэтак і да заўтра ня вырушым! (адцягіваець Ганулю ад Антося:) Рушай, Антось. (Антось выходзіць. Ганулля вырываецца з рук і, галосячы, бяжыць за Антосем, за ёй Галінка і Дудар).

**Гануля**—(бягучы) А мой-жа ты галубочак!... а куды-ж ты адлятаеш!... (зьнікае ў левым баку вулкі).

ЗЬЯВА 13-я.

**Дудар з Антосем** вядуць назад **Ганулю.** Гануля галосіць. Галінка моцна плача, учапіўшыся за бацьку.

**Дудар**—(да кабет). Слухайце, цёткі! патрымайце вы, калі ласка, Ганулю, а то няма рады, не адарваць ад Антося. (Кабеты на вуліцы абступаюць наўкол Ганулю і Галінку. Трымаюць абняўшы. Пацяшаюць і плачуць разам. Гануля ўсьцяж галосіць. Дудар, беручы Антося за руку:) Ну, гайда, брат!... (да каморніка:) Бывайце, пане каморнік, не памінайце ліхам...

**Каморнік**—(хутка падходзячы да іх і падаючы ім руку:) Ідзеце з Богам!... усяго добрага!... шчасьлівае дарогі! (Дудар цягне Антося са сцэны.)

**Гануля** — (галосячы, да Галінкі:) А мая-ж ты Галіначка!... а дзе-ж наш татачка!... ды чуе маё сэрцайка, што ён ня вернецца...

**Адна кабета**—(плачучы і гледзячы ў левы бок вулкі:) Ды ўжо-ж рухаюцц! Ды ўжо-ж ад'яжджаюць!

**Гануля** — (моцна рвецца з рук кабет і дзіка крычыць:) Пусьцеце! Пусьцеце! Пусьцеце! (потым раптам у бязсільлі валіцца на рукі трымаючых яе кабет.—Галінка крычыць.)

**Кабеты**—Самлела! Самлела! Вады! хутчэй вады!!

**Каморнік** — (моцна ўзрушаны, гледзячы на Ганулю:)

Вось яно жыцьцё!
Вось яна глыбіня чалавечае душы!...
Што было ўчора, а што—сёньня?!...
Вось тут і зразумей...

ЗАСЛОНА.

Вастрог „Лукішкі", Ліпень 1929 г.

———

тэту Камун. Партыі Зах. Украіны — у лічбе 20 асоб.

На тэрыторыі Станіславоўскага ваяв. зроблены масавыя вобыскі. У рэзультаце — звыш 100 асоб арыштаваны.

У м. Станіславове арыштаваны 12 украінскіх турыстаў, якія, як пішуць польскія газэты, аказаліся сябрамі Укр. Ваеннае Арганізацыі і быццам маніліся выканаць нейкі „акт саботажу“.

**Перад выбарамі ў новыя самаўрады.** Міністэрства ўнутр. спраў апрацоўвуе правілы аб выбарах у органы самаўраду, якія маюць адбыцца па новаму закону часткова ўжо ў восені гэтага году, часткова-ж вясной будучага году.

У кастрычніку маюць адбыцца выбары ў тых мястовых гмінах, дзе ўрадуюць камісары, пасьля — у іншых местах і ў сельскіх гмінах. У буйнейшых местах выбары маюць адбыцца толькі вясной.

Нашым вясковым гмінам трэба добра падрыхтавацца да выбараў.

**Праявы польска-савецкага зблiжэньня.** Як ведама, нядаўна ў Польшчу прыяжджала група савецкіх журналістаў, з ведамым К. Радэкам на чале. Савецкіх гасьцей у Варшаве спатыкалі надзвычайна сэрдэчна і ўрачыста. Рэхам гэтае візыты зьявіўся рад артыкулаў Радэка ў савецкай прэсе. А толькі што адзін і той самы артыкул Радэка зьявіўся навет адначасна ў маскоўскіх „Известиях“ і ў варшаўскай „Газэце Польскай“.

У гэтым артыкуле савецкі перадавік тлумачыць, чаму СССР ня мае да Польшчы ніякіх варожых пачуцьцяў, але наадварот — прывітаў адраджэньне яе незалежнасьці, як адзін з „нячысьленых дадатніх фактаў, створаных у рэзультаце апошняе сусьветнае вайны“.

Адчувалася яўна польска-савецкае зблiжэньне і ў часе толькі-што адбытага міжнароднага кангрэзу гістарычных навук у Варшаве.

**Тавараабмен паміж Польшчай і СССР.** Польскі і савецкі ўрады апрацоўваюць правілы, якімі мае рэгулявацца гандлёвы абмен паміж абедзьвюма дзяржавамі на бліжэйшы час. Савецкі ўвоз у Польшчу намечаны ў першую чаргу ў суме 15 мільён. зл. Галоўныя прадметы ўвозу: сырыя і гатовыя футры, вышэйшыя сарты рыбаў і савецкія фільмы. Узамену за гэта Саветы павялічаць колькасьць увозу да сябе польскіх мэталёвых вырабаў.

**Дэлегацыя віленскіх рамесьнікаў едзе ў СССР.** У найбліжэйшым часе мае выехаць у СССР дэлегацыя віленскіх рамесьнікаў. Мэта падарожы—наладзіць беспасярэднія гандлёвыя зносіны з тамтэйшымі рынкамі.

**Гандлёвае паразуменьне паміж Літвой і Польшчай?** Газэты падаюць сэнсацыйную на польска-літоўскія адносіны вестку аб тым, быццам ковенскі ўрад—пад націскам літоўскае гандлёвае палаты—даў дазвол 4 літоўскім фірмам завязаць беспасярэднія гандлёвыя адносіны з Польшчай.

З польскага боку быццам так сама вызначаны 4 фірмы—у Варшаве, Вільні, Лодзі і Катовіцах, якія будуць падтрымліваць сталую гандлёвую сувязь з літоўскімі фірмамі. Ясна, што за плячыма гэтых гандлёвых фірмаў стаяць урады абедзьвюх дзяржаў, якія будуць рэгуляваць узаемныя карысьці гэтага гандлю. Калі гэтая вестка праўдзівая, дык мы маем запраўды-ж важны зрух у ўзаемных адносінах Польшчы і Літвы.

———

**Канфэрэнцыя II-га Інтэрнацыяналу.** На апошнім тыдні (21-26/VIII) адбылася ў Парыжу канфэрэнцыя II-га Соцыялістычнага Інтэрнацыяналу. Зацятая барацьба паміж абыдвума флянгамі закончылася яўным паражэньнем лявіцы — фракцыі Блюма і Адлера. Рэзалюцыя Блюма, якая прапанавала аб'яднаньне—дзеля супольнай барацьба з фашызмам—II-га Інтэрнацыяналу з III-цім (Камуністычным), а такжа — абвяшчэньне агульнае забастоўкі ў выпадку аб'яўленьня вайны, —адкінена значнай большасьцяй галасоў.

Прынятая-ж рэзалюцыя падчырківае важнасьць дэмакратычнага ладу, як падставы соцыялізму (у адрозьненьне ад камунізму), хаця неяк дапускае, як „часовы“ (?!) -парыяд „дыктатуру пралетарыяту“. Фашызм у кожнай краіне павінна зваліць свая „краёвая палітычная „народная рэвалюцыя“, якая адначасна будзе—„павінна быць“—і соцыялістычнай. Гэта значыць, што яна аднача̀сна зваліць і капіталістычны лад, і зямельную ўласнасьць абшарнікаў.

Далей рэзалюцыя сумуе аб разьбіцьці адзінага фронту работніцкае клясы, заклікае да яго аб'яднаньня.

У канцы прынята пастанова 9-16 лістапада наладзіць „тыдзень у памяць нямецкае рэвалюцыі“. У часе гэтага „тыдня“ соцыялісты ўсіх краёў маюць рабіць сабраньні і маніфэстацыі проці фашызму, участцы — проці гітлерызму, ды зьбіраць складкі на т. зв. „фонд Матэотті“ (забітага па загаду Мусоліні ў 1923 г. італьянскага соцыяліста).

Як бачым, агульны нахіл II-га Інтэрнацыяналу ідзе больш у кірунку паразуменьня з буржуазнай дэмакратыяй, выключаючы зблiжэньне з камунізмам.

**Спатканьне аўстрыяцкага прэм'ера з Мусоліні.** 20/VIII адбылася новае спатканьне прэм'ера Аўстрыі Дольфуса з Мусоліні. Гутарка паміж імі йшла ўсьцяж аб тым, як ахаваць незалежнасьць Аўстрыі ад націску звутра і звонку на Аўстрыю з боку Гітлераўскае Нямеччыны. Мусоліні, дзякуючы свайму сярэдняму палажэньню ў „пакце 4-х“ —паміж Францыяй і Англіяй, з аднаго боку, ды Нямеччынай—з другога, зьяўляецца нагул як быццам „арбітрам“ (вырашаючым справу судзьдзёй) ува ўсіх опорных справах эўрапэйскае палітыкі.

Для Італіі, зразумела, таксама, як і для Францыі ды Англіі, нявыгадна значнае ўсі-

леньне Нямеччыны, якое адбылася-бы ад далучэньня да яе Аўстрыі. Але, з другога боку, Мусоліні хоча вырваць Аўстрыю і з-пад уплыву Францыі. Таму ён высоўвае плян гаспадарчага злучэньня Аўстрыі з Вэнгрыяй і—зблізкэньня гэтак „адбудаванае новае Аўстра-Вэнгрыі“ з Італіяй. Францыя, з свайго боку, хочучы зьменшыць уплывы на Аўстрыю з боку Італіі, высоўвае думку аб шырэйшай „гаспадарчай коаліцыі“ суседніх з Аўстрыяй дзяржаў, дадаючы да яе і сваіх саюзьнікаў з Малае Антанты. Такой „наддунайскай коаліцыяй дзяржаў“, зразумела, у значнай меры кіравала-б — праз Малую Антанту—Францыя. Абодва пляны—італьянскі і францускі — вылучаюць акружэньне Аўстрыі Нямеччынай. На ўсе гэтыя пляны Гітлераўская Нямеччына адказывае... „чынна“—аружнай гітлерызацыяй Аўстрыі. Гітлераўскае радыё з Мюнхену ўсьцяж бомбардуе Аўстрыю прамовамі, у якіх адкрыта заяўляе, што ўсе гэтыя камбінацыі—як італьянскія, так і францускія—штучныя і няжыцьцёвыя. Жыцьцёвая і натуральная — тольні адна. Гэта—злучэньне Аўстрыі з Нямеччынай, аб якім пастанавіла яшчэ ў 1918 першае Нацыянальнае Сабраньне ў Вене.

Сам Гітлер заявіў, што апанаваньне Аўстрыі—ці ў форме яе далучэньня, ці шляхам яе гітлерызацыі, гэта ёсьць „баявое заданьне“ ягонага ўраду — заданьне „першае вагі і чаргі“.

З гэтага зразумела, якую вялізарную ролю йграе цяпер у міжнародавай палітыцы Эўропы маленькая Аўстрыя. Нямецкая Аўстрыя сама, ведама, цягнецца да адзінакроўнае Нямеччыны, толькі дурная ды бандыцкая тактыка Гітлера адпіхае яе ад злучэньня. Апроч таго, спрытныя палітычныя кіраўнікі Аўстрыі выкарыстоўваюць памысную „кон'юнктуру“, каб узяць ад усіх сваіх сучасных „шчырых прыяцеляў“ і „ахоўцаў незалежнасьці“ усё, што даецца ўзяць, як адплату за адмову — ведама-ж, толькі на нейкі час,—ад натуральнага злучэньня двух нацыянальна адзіных нямецкіх дзяржаў... Францыя гатова ізноў даць Аўстрыі вялізарнага хабара... перапрашаем: пазыку за гэтую „адмову“.

**Забастоўка транспортных работнікаў у Францыі.** У Францыі выбухла забастоўка работнікаў воднага транспорту—на рэках і каналах. Работнікі, нездаволеныя аплатай працы, выставілі свае дамаганьні. Атрымаўшы рашучую адмову ад працадаўцаў, работнікі пачалі будаваць на рэках і каналах барыкады—запруды з рознага роду старых параходаў, баржаў, лодак і т. д., каб зрабіць наагул непраходнымі ўсе водныя шляхі паміж сталіцай і іншымі вялікімі і малымі местамі Францыі. Адразу вельмі падняліся цэны на спажыўныя прадукты ў местах. Тады ўмяшалася паліцэйская ўлада, і паміж забастоўшчыкамі і рачной жандармэрыяй завязаліся запраўдныя „морскія бітвы“, якія трывалі некалькі дзён. Жандармэрыя на ваенных катэрах, азброеная агнястрэльным аружжам і спэцыяльнымі баявымі прыладамі, ведама, перамагла. Водныя шляхі былі ачышчаны, але работнікі выпусьцілі адозву, у якой заяўляюць, што забастоўка будзе прадаўжацца, пакуль ня будуць споўнены галоўныя жаданьні бастуючых. Забастоўка пашырылася на ўсю Францыю. Міністар публічных работ вядзе пераговоры з дэлегацыяй забастоўшчыкаў.

**Звальненьне Гандi.** Ведамы правадыр індускіх „мірных незалежнікаў“ Ганді, які быў нядаўна арыштаваны за тое, што зноў распачаў «паход» пад лёзунгам «мірнага спраціўленьня ўладам» (ангельскім) і акцыю байкоту англійскага гандлю, звольнены з вастрогу. Звольнены, бо ізноў захварэў і пагражаў галадоўкай. «Затое» арыштаваны старшыня кангрэсу індускіх нацыяналістаў (партыі Ганді) Сінгавушара — за тую-ж байкотавую акцыю.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Гарасімовічу Віталію,** в. Лышчыцы, Азерскай гм. Горадзенскага пав. На вашай адкрытцы штэмпэль пошты Скідэль, але пошта ёсьць у гміне Азёры. Таму пасылаем вам першы раз і на Скідэль, і на Азёры. Паведаміце дакладна, на якую пошту высылаць.

**Гр. Кастусь Грышэль,** в. Навасёлкі, гм. Ракаў, пав. Маладэчанск. Пісьмо вашае ТБА атрымала. Газэта высылаецца. Бібліатэка ТБА будзе выслана ў бліжэйшыя дні. Далейшыя інструкцыі ў справе залажэньня гуртка Т-ва атрымаеце неўзабаве.

**Гр. „Крыва-славу“ ў Гайнаўцы.** Вы надавалі нам столькі рознага роду „даручэньняў“, дамагаецеся столькіх рэчы, што ўва ўсім трэба добра разабрацца. Насамперш — жаданыя вамі адрасы вышлем лістом. Вершы вашы— як беларускія, таксама і — чамусьці прысланныя вам — расейскія, наагул да друку не надаюцца: не літэратурны. Трудна радзіць вам вучыцца пісаць — паводле ўзораў лепшых паэтаў — у вашым веку, але спрабуйце. Кніжак прыватным асобам дарма Т-ва высылаць ня можа. Таксама, зразумела, рашуча адмаўляемся ад самага... паважнага і адказнага вашага „даручэньня“: шукаць для вас у Вільні жонку — „чыстакроўную крывачанку... з пасагам у 5.000 зл.“ Гэтая дзейнасьць у статуце ТБА не прадбачана.

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 2 IX. Жыта гурт. 1 зл., 90 гр. дэт. 2 зл. 10 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 2 зл. дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 50 гр. дет. 3 зл. 80 гр. Бульба стар. кілягр. 0,07 гр., дэт. 0,10 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. 20 гр.—2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 80 гр. — 3 зл. 20 гр., масла гаспадар. 2 зл. 20 гр.—2 зл 60 гр. Яйкі 60-70—70-80 гр. Даляр 6 зл. 30 гр.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22

BIBLJOTEKA 72612 w Wilnie. im. Wróblewskich